# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№3 (202)

сакавік 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

**У НУМАРЫ:**

## Надпісы на магілах паўстанцаў 1863 года будуць і па-беларуску

Урад Літвы адказаў на зварот больш як 500 дзеячоў грамадства і культуры Беларусі, у тым ліку кіраўнікоў ЗБС “Бацькаўшчына” Алены Макоўскай і Ніны Шыдлоўскай.

Старонка 6

## Правілы жыцця беларускі, якая 20 гадоў працуе ў Канадзе ў ІТ-сферы

Як з’ехаць у Канаду, не ведаючы нават ангельскай мовы, а ў выніку зрабіць кар’еру ў сферы інфармацыі і бізнесу? Валянціна Шаўчэнка сведчыць, што галоўнае – умець вучыцца, працаваць ды мець “open mind”.

Старонка 7

## “Беларуская цывілізацыя ў Амерыцы”

Новае выданне ў “Бібліятэцы Бацькаўшчыны” – выкшталцоны летапіс паўстагадовай (на час напісання кнігі) гісторыі “Беларуска-Амерыканскага Задзіночання” аўтарства вядомага беларускага мовазнаўцы Змітра Саўкі, які пайшоў у лепшы свет у 2016 годзе.

Старонка 8



6 красавіка ў Атаве (Канада) старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла ўручыла мэдалі архіяпіскапу БАПЦ Святаславу (Логіну), дзеячам беларускай дыяспары ў Канадзе Пятру Мурзёнку, Валянціне Шаўчэнка і Анатолю Храноўскаму, а таксама праваабаронцу Дэвіду Кілгуру.

# ДВАЦЦАЦЬ ТРЫ СЯБРЫ РАДЫ “БАЦЬКАЎШЧЫНЫ” ЎЗНАГАРОДЖАНЫЯ МЕДАЛЁМ ДА СТАГОДДЗЯ БНР

24 снежня 2018 года старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла падпісала дэкрэт аб узнагароджанні больш як 130 дзеячоў Медалём да стагоддзя БНР.

У нядаўнім інтэрв’ю для “Радыё Свабода” Івонка Сурвілла паведаміла, што поўныя спісы ўзнагароджаных юбілейнымі Медалямі да стагоддзя БНР не будуць апублікаваныя, у тым ліку і з патрэбаў бяспекі ў дачыненні да некаторых асобаў. Але нават у тым няпоўным спісе, які яна перадала журналістам, ёсць імёны дваццаці трох сябраў Рады “Бацькаўшчыны”:

- кіраўніцы Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” Алена Макоўская (Беларусь) і Ніна Шыдлоўская (Беларусь);
- сябра Рады “Бацькаўшчыны” і прэзідэнт Згуртавання ў 1993–2001 гг. акадэмік Радзім Гарэцкі (Беларусь);
- пісьменнікі Уладзімір Арлоў (Беларусь) і Вольга Іпатава (Беларусь);
- прадстаяцель Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Святаслаў Логін (Канада);
- старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання Станіслаў Шушкевіч (Беларусь);
- дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання Юры Беленькі (Беларусь), Валянцін Голубеў (Беларусь) і Алег Трусаў (Беларусь);
- галоўны рэдактар штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва” ў 1986–1990 гг. і дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Анатоль Вярцінскі (Беларусь);
- старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алена Анісім (Беларусь);
- грамадскі дзеяч Павел Севярынец (Беларусь);
- дзеячы беларускай дыяспары Янка Запруднік (ЗША), Валянціна Шаўчэнка (Канада) і Пётра Мурзёнак (Канада);
- заснавальнік і дырэктар гуманітарнага ліцэя Уладзімір Колас (Беларусь);
- мастак Мікола Купава (Беларусь);
- медыя-менеджар Ірына Віданава (Беларусь);
- медыя-менеджар Аляксандр Старыкевіч (Беларусь);
- гісторык Захар Шыбека (Ізраіль);
- даследчык і гісторык Адам Мальдзіс (Беларусь);
- даследчыца і гісторык Наталля Гардзіенка (Беларусь).

Уручэнні медалёў будуць адбывацца цягам года.

Шчыра віншуем паплечнікаў і дзякуем за штодзённую працу, якую вы робіце на карысць Беларусі, такую вялікую, што яна заўважная не толькі ў Беларусі, але і па-за яе межамі!

**Інфармацыйны цэнтр „МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” паводле Сяргея Навумчыка, “Радыё Свабода”**

навіны "Будзьма беларусамі!"

# ПАБАЧЫЛА СВЕТ КНІГА ПРА ЎЗАЕМАДЗЕЯННЕ МЯСЦОВЫХ ОРГАНАЎ УЛАДЫ І НЕКАМЕРЦЫЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ У БЕЛАРУСІ

Напрыканцы сакавіка 2019 г. пабачыла свет выданне "Узаемадзеянне мясцовых органаў улады і некамерцыйных арганізацый у Беларусі: прававое рэгуляванне і практыка". Кніга не толькі прысвечаная аналізу сённяшніх юрыдычна-прававых умоваў дзейнасці грамадскага сектару, але і выбудоўвае пэўнае бачанне таго, што рабіць далей дзеля развіцця грамадзянскай супольнасці і наладжвання прадуктыўнага міжсектарнага дыялогу на мясцовым узроўні.

Многія актыўныя гульцы грамадскага сектару Беларусі заўважылі пэўныя станоўчыя змены ў стаўленні ўладных структураў да дзейнасці НДА, да прапаноў грамадскасці агулам. У шэрагу сфер гэтая адкрытасць – істотная (як, напрыклад, у сферы развіцця умоў для прадпрымальніцтва). У іншых абласцях (напрыклад, захаванне правоў чалавека) гэтая адкрытасць хоць і мае месца, але ацэньваецца як дэманстратыўная, працэдурная, арыентаваная на абмеркаванне, але не звязаная з рэальным улікам інтарэсаў грамадскасці.

У той жа час відавочна, што праца мясцовых ініцыятыў спрыяе вырашэнню многіх праблем і задач, а таксама вядзе да паляпшэння мясцовага мікраклімату ў цэлым. Аднак гэтыя пазітыўныя змены не стануць устойлівымі, калі мясцовыя ўлады не будуць улічваць меркаванне грамадзян і не ўбачаць у грамадзянскай супольнасці свайго непасрэднага партнёра.

У сувязі з гэтым паўстала неабходнасць правядзення даследавання і аналізу суадносін прававых умоў і практыкі ўзаемадзеяння мясцовых уладаў і некамерцыйных арганізацый у нашай краіне з мэтамі прапановы рэкамендацый розным актарам па паляпшэнні сітуацыі.

Вынікі такога даследавання і пабачылі свет напрыканцы сакавіка гэтага года ў выглядзе кнігі пад назвай "Узаемадзеянне мясцовых органаў улады і некамерцыйных арганізацый у Беларусі: прававое рэгуляванне і практыка".

Асноўны блок выдання змяшчае інфармацыю пра тое, чаму некамерцыйныя недзяржаўныя арганізацыі з'яўляюцца важнымі элементамі ўдзелу грамадства ў прыняцці рашэнняў уладамі. Аўтары кнігі – Вольга Смалянка (Цэнтр прававой трансфармацыі) і Юры Чавусаў (Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі) – дзеляцца замежным досведам камунікацыі паміж грамадствам і дзяржавай, а таксама аналізуюць прававыя ўмовы і практыкі такога ўзаемадзеяння ў Беларусі.

Важнай часткай кнігі ёсць рэкамендацыі рэспубліканскім і мясцовым органам улады, арганізацыям грамадзянскай супольнасці і міжнародным арганізацыям. Гэтыя рэкамендацыі, распрацаваныя аўтарамі даследавання пры ўдзеле прадстаўнікоў шырокага спектру некамерцыйных арганізацый, дазволяць развіваць канструктыўнае міжсектарнае ўзаемадзеянне.

Таму кніга была дасланая шырокаму колу дзяржаўных інстытуцый, а таксама недзяржаўным беларускім і міжнародным арганізацыям. Для ўсіх зацікаўленых ёсць магчымасць, пакінуўшы заяўку, атрымаць яе ў папяровым выглядзе абсалютна бясплатна (падрабязней пра тое, як гэта зрабіць, а таксама дзе можна спампаваць электронны варыянт выдання, чытайце на сайце buzdma.by).




Гэтае выданне – вынік даследаванняў прававых умоваў дзейнасці недзяржаўных арганізацый і іх супрацы з уладамі, якія ладзіліся цягам трох гадоў на замову кампаніі "Будзьма беларусамі!" і Школы маладых менеджараў публічнага адміністравання "SYMPA" ў межах рэгіянальнай кампаніі "Разам да справы!"

**budzma.by**

памяць

# ЗАЯВА ПРАВААБАРОНЧЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ З НАГОДЫ ПАДЗЕЯЎ У КУРАПАТАХ

Раніцай 4 красавіка ва ўрочышчы Курапаты дэмантавалі і вывезлі мемарыяльныя крыжы, усталяваныя летась грамадскімі актывістамі. Хто прыняў рашэнне пра дэмантаж крыжоў, куды іх вывезлі і што з імі будзе далей, дагэтуль невядома.

Дырэктар Бараўлянскага спецлясгасу Аляксандр Міранавіч, які знаходзіўся ў Курапатах, адмовіўся размаўляць з журналістамі і патлумачыць ім, што адбываецца. Каля 12 гадзін пачаліся працы па ўстаноўцы металічнай сеткі вакол урочышча.

Былі затрыманыя 15 абаронцаў Курапат, у тым ліку Зміцер Дашкевіч, Павал Севярынец, Ніна Багінская, Дзяніс Урбановіч, Піліп Шаўроў, Валер Рабцаў. Паводле інфармацыі міліцыі, яны затрыманы "для высвятлення асобы і правядзення праверкі".

Курапаты з'яўляюцца найбольш вядомым месцам масавых расстрэлаў, якія ажыццяўляў НКУС на тэрыторыі Мінска. На працягу 30 год людзі стваралі народны мемарыял у месцы нацыянальнай катастрофы.

У Курапатах неаднаразова здараліся акты вандалізму, але вандалы ніколі не былі знойдзеныя і прыцягнутыя да адказнасці. Наступствы вандалізму ліквідуюць самі людзі. Дзяржава не выконвае сваіх абавязкаў па ахове Курапат.

Сённяшні знос крыжоў мы расцэньваем як акт вандалізму з боку органаў улады. Гэта акт знішчэння народнай памяці.

Мы патрабуем:

- неадкладна спыніць працы па дэмантаванні крыжоў у Курапатах;


Sergei Grits (AP)

- вярнуць дэмантаваныя крыжы на месца;
- патлумачыць, хто і з якой мэтай дэмантаваў крыжы сёння;
- надалей усе планаваныя працы ў Кураптах загадзя ўзгадняць і абмяркоўваць з грамадскасцю і ўлічваць яе меркаванне;
- забяспечыць належную ахову мемарыялу і прадухіліць новыя акты вандалізму;
- вызваліць усіх затрыманых абаронцаў Курапат.

*4 красавіка 2019*

**Беларускі ПЭН-цэнтр**
**Беларускі дом правоў чалавека**
**Праваабарончы цэнтр "Вясна"**
**РГА "Прававая ініцыятыва"**




Дзень Волі

# БОЛЬШ ЗА 5000 ЧАЛАВЕК САБРАЛАСЯ НА ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ГРОДНЕ

Некалькі тысяч чалавек сабраліся на святочны канцэрт у Гродне.

У пікавыя моманты на пляцоўцы было каля 3500 чалавек. Усяго на сьвяце пабывала больш за 5000 чалавек.

Канцэрт праходзіў каля Каложы ў Гродне. На ім выступілі "Крама", Вайцюшкевіч, Nizkiz, Вольскі, Dzieciuki.

Канцэрт арганізоўвалі жыхары Горадні пры дапамозе групы сталічных блогераў і актывістаў. Грошы на свята былі сабраныя праз інтэрнэт.

"Наша Ніва"

## ВІНШАВАНЬНЕ З ДНЁМ ВОЛІ АД СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

Дарагія мае суродзічы-беларусы!

У гэты першы Дзень Волі другога стагоддзя нашай Рэспублікі хачу падзяліцца з вамі маім захапленнем: нягледзячы на ўсе здзекі, на фізічнае знішчэнне найлепшых сыноў і дачок нашага народа, на прапаганду, якая прадаўжаецца да сёння; нягледзячы на старанне ворагаў, каб сцерці наш край з паверхні Зямлі – мы выжылі!

Беларусь – жыве!

Другое стагоддзе нашай сучаснай дзяржавы пачалося, на жаль, узмоцненай прапагандысцкай атакай супраць яе. Але за апошнюю чверць стагоддзя беларусы навучыліся разважаць іншымі катэгорыямі і ведаюць розніцу між воляй і рабствам. Многія беларусы, перадусім з маладога пакалення, на свае вочы пабачылі, як заможна жывуць нават маленькія дзяржавы, якія не заўсёды маюць прыродныя багацці, але маюць таленавітае і працавітае грамадства, якое супольна працуе на дабрабыт свайго народа.

Беларускай моладзі не трэба даказваць, што супольнасць паспяховых, адукаваных і вольных грамадзянаў – гэта самы важны рэсурс краіны. Спатканні мае з маладымі беларусамі напаўняюць сэрца радасцю: гэта золата, якое мы павінны цаніць.

Дык звяртаюся сёння перадусім да Вас, мае дарагія маладыя сябры! Бо Вы здольныя выратаваць наш край ад новай няволі. Вы разумееце пачуццё годнасці вольнага чалавека. Вы ведаеце, хто Вы!

Віншую ўсіх Вас, мае дарагія суродзічы, асабіста і ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, з новым, другім стагоддзем ад абвяшчэння незалежнасці Беларусі і жадаю, каб змаганне за волю было плённым і пераможным!

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла,*
*Старшыня Рады БНР*
*Сакавік 2019 г.*

radabnr.org

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў МІНСКУ

У Мінску ў Кіеўскім скверы 24 сакавіка адбылося святкаванне Дня Волі.

Тысячы людзей прыйшлі, каб паслухаць выступы палітыкаў і беларускіх рок-гуртоў: "Водар", "Разбітае сэрца пацана", "Дай дарогу", "NRM" і іншых. Падчас свята працавалі гандлёвыя кропкі, таму можна было выпіць кавы ці нават паесці шашлыку, набыць нацыянальныя сувеніры і сімвалы.

Напрыканцы ўдзельнікі святочнага мітынгу-канцэрту выканалі гімн "Магутны Божа".

Свята адбылося. Яно атрымалася маляўнічым, эмацыйным, узнёслым. Але яго сапсавала затрыманне міліцыяй былога лідара Маладога Фронту Змітра Дашкевіча пасля яго вострага выступу на мітынгу. Змітра адвезлі ў РАЎС Цэнтральнага раёна Мінска.

Паводле "Беларускае Радыё Рацыя"





# У ПРАЗЕ НА 101-Ю ГАДАВІНУ БНР НАВЕДАЛІ МАГІЛЫ ПРЭЗІДЭНТАЎ

Традыцыйна ў Дзень Незалежнасці пражскія беларусы ўшаноўваюць прэзідэнтаў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і іншых беларускіх палітычных і культурных дзеячоў, пахаваных у Празе.

Адзначэнне 101-й гадавіны незалежнасці БНР, арганізаванае супольнай "Скарына", пачалося ў нядзелю раніцай беларускай службай у грэка-каталіцкім касцёле святых Кузьмы і Дзям'яна.

Пасля традыцыйна накіраваліся на Альшанскія могілкі, дзе спачываюць два прэзідэнты Рады БНР – Пятро Крачэўскі і Васіль Захарка.

"Радыё Свабода",
фота: Сяргей Навумчык, Крысціна Шыянок

**Дзень Волі**

# У Нью-Ёрку адбылася святочная імпрэза з нагоды #БНР101

Святочная імпрэза, прысвечанная 101-м угодкам абвяшчэння Незалежнасці і Вольнасці БНР, адбылася ў грамадскай зале сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку.

Мерапрыемства ладзілася Нью-Ёрскім аддзелам Беларуска-Амерыканскага Задзіночання пры падтрымцы Галоўнай управы БАЗА і Парафіяльнай рады сабора Св. Кірылы Тураўскага.

Раніцаю а 10:00 у царкве прайшла Літургія і быў адслужаны малебен за Беларусь.

Апоўдні пачалася святочная імпрэза, якую адчыніла віншавальнай прамовай старшыня Галоўнай управы БАЗА Наталля Федарэнка. Галіна Пазняк зачытала віншаванне ад старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Са святочнай прамовай выступіў Зянон Пазьняк, у якой падкрэсліў, што абвешчанне БНР было вынікам вялікага беларускага нацыянальнага ўздыму.

З урачыстай прамовай таксама выступіў старшыня Парафіяльнай Рады сабора Св. Кірылы Тураўскага Расціслаў Гарошка. Спадар Расціслаў зрабіў экскурс у гісторыю пабудовы беларускай аўтакефальнай царквы ў Амерыцы і распавёў аб важнасці яе захавання. Ганна Сурмач, былая шматгадовая старшыня Галоўнай управы БАЗА, сябра прэзідыуму Рады БНР, распавяла аб працы Рады БНР і заклікала прысутных падтрымаць ахвяраваннямі Раду, якая не мае аніякай іншай падтрымкі, акрамя той, што ідзе ад беларусаў.

Апрыканцы афіцыйнай часткі выступіў Валеры Мінец, які павіншаваў усіх са святам і пажадаў еднасці і згоды беларусам на Бацькаўшчыне, у Амерыцы і па ўсім свеце.



Асабісты ўдзел у святкаванні прынялі госці з Беларусі – Юры Беленькі, беларускі палітык, намеснік старшыні КХП-БНФ, і Мікіта Найдзёнаў, музыкант, паэт, лідар гурта HURMA.

Спадар Юры выступіў з натхняльнай прамовай аб тым, што кожны можа і павінен – у першую чаргу, сабе – зрабіць асабісты ўнёсак у пабудову лепшай будучыні беларускага народа.

Мікіта Найдзёнаў пазнаёміў прысутных са сваёй творчасцю, распавёў пра новы праект "Сам Шазам". Госці былі прыемна ўражаныя талентам і творчасцю спадара Мікіты.

**Наталля Федарэнка, "Новы Час"**

# Дзень Волі ў Нью-Ёрку

25 сакавіка, бадай, адно з самых галоўных святаў беларусаў замежжа.

Амерыканскія беларусы старэйшага пакалення адзначаюць гэтае свята штогод у сваіх грамадска-культурных асяродках: ладзяць мітынгі, арганізуюць банкеты з прамовамі з трыбуны, урачыстымі прывітаннямі ад мясцовых губернатараў, канцэртамі беларускай музыкі, выставамі беларускіх мастакоў. Хваля новай эміграцыі з Беларусі дадала да спосабаў адзначэння гадавіны БНР свае ідэі: сустрэчы у начных клубах з канцэртамі і вікрынамі, забегі і нават мінулагодні парад ровараў.

Новы фармат святкавання ўзнік дзякуючы Ганне Шарко, каторая чатыры гады назад стварыла суполку ў Фэйсбуку "Беларусы ЗША. Разам лягчэй". За чатыры гады Ганна, яе муж Аляксандр Мазгавы і каманда сяброў-актывістаў арганізавалі дзясяткі сяброўскіх сустрэч для беларусаў: гэта і тэматычныя сустрэчы ў клубах, і прагулкі на прыродзе за горадам, пікнікі ў парках і сустрэчы на пляжы.

Сёлета на святкаванне Дня Волі Ганна з камандай сумесна з Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем "Пагоня" падрыхтавала праграму Музычны Фрэш.

Прысутных чакалі выступы Яўгена Сокалава (ZnaROCK), Германа Жыгала і гурта Kazinak. Святкаванне прайшло 23 сакавіка ва ўтульным манхэтанскім клубе NUBLU. Для гурта Kazinak гэта быў дэбют. Яны зайгралі хіты Лявона Вольскага і Ляпісаў, а таксама прадставілі ўласную кампазіцыю. Ёсць надзея, што Kazinak працягне творчы працэс.



Усе прысутныя аўтаматычна сталі ўдзельнікамі латарэі, на якой былі разыграныя беларускія сувеніры ад спонсараў і некалькі беларускіх кніг, перададзеных у якасці падарунку ад Беларускай Фундацыі імя Пётры Крачэўскага.

**Фота і тэкст Сержа Трыгубовіча, "Наша Ніва"**




# Дзень Волі ў Варшаве з Касцюшкам і Міцкевічам

У Варшаве ў суботу 23 сакавіка прайшла традыцыйная імпрэза з нагоды абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Імпрэза распачалася з мітынгу каля помніка Тадэвушу Касцюшку – герою паўстання 1794 года. Пасля гэтага ўдзельнікі імпрэзы – а іх сабралася больш за 100 чалавек – прайшлі шэсцем праз цэнтр Варшавы да помніка Адаму Міцкевічу.

"Вельмі годна беларусы ішлі цэнтральнымі вуліцамі Варшавы, вельмі прыемна было, што нас падтрымлівалі варшавякі ды госці польскай сталіцы. Салідарнасць суседняга польскага народа была вельмі адчувальная і адчувальная цяпер", — падзяліўся ўражаннямі Алесь Зарэмбюк, сустаршыня Беларускага дома ў Варшаве. Святочныя імпрэзы з нагоды Дня Незалежнасці БНР ладзяцца з 2012 года.

**"Радыё Свабода", фота Васіль Васкабовіч**

Дзень Волі

# БЕЛАРУСЫ ВЯЛІКАБРЫТАНІІ ЎРАЧЫСТА АДЗНАЧЫЛІ 101-Я ЎГОДКІ АБВЯШЧЭННЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БНР

23 сакавіка 2019 г. у зале Беларусага Дома ЗБВБ у Лондане адбылася ўрачыстая акадэмія на адзначэнне 101-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года.



Сход распачаў малітвай айцец Сяргей Стасевіч. Намеснік Старшыні Згуртавання Павел Шаўцоў прачытаў святочны зварот Старшыні Рады БНР спадарыні Івонкі Сурвіллы. У сваім выступе Старшыня ЗБВБ Мікалай Пачкаеў распавёў пра сітуацыю са святкаваннем дня незалежнасці БНР у сучаснай Беларусі і пра рашэнне Рады БНР заснаваць юбілейны Медаль да 100-годдзя БНР.

Присутным былі прадэманстраваныя выявы гістарычных пячатак Рады, адна з якіх была ўжытая для завярэння сертыфікатаў медаля. Сход праслухаў прывітальны відэазварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы да беларусаў у Вялікабрытаніі і брытанскіх сяброў Беларусі з нагоды 101-х угодкаў Акта 25 сакавіка і ўзнагароджання пяці асобаў у Вялікабрытаніі медалём Рады БНР.

Пасля гэтага адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння медалёў чатыром присутным на сходзе асобам з ліку ўзнагароджаных: спадару Джыму Дынглі, прафесару Арнольду МакМіліну, спадарыні Лёлі Міхалюк і айцу Сяргею Стасевічу. Лёлі Міхалюк, колішняй Старшыні ЗБВБ, былі ўручаныя кветкі. Таксама кветкі былі ўручаныя спадарыні Алене Сеньцы, якая нядаўна адзначыла 70-гадовы юбілей.

Сход завяршыўся спевам гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і святочным прыёмам. Пасля сходу сябры ЗБВБ ад імя Управы ўручылі кветкі спадарыні Вользе Жынгель, якая не магла быць присутная на сходзе, у гонар яе 90-годдзя.

**Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі, фота Караліны Мацкевіч**

# "ЗА НАШУ І ВАШУ СВАБОДУ!" ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў КІЕВЕ

Ужо традыцыйна беларусы, якія жывуць ва Украіне, разам з украінскімі актывістамі ладзяць у цэнтры Кіева, на Майдане Незалежнасці, акцыю салідарнасці, прымеркаваную да Дня Волі.



Арганізатарамі сёлетняй акцыі выступілі Беларускі цэнтр "Сябры", Рух салідарнасці "Разам", Тактычная група "Беларусь", якая аб'ядноўвае беларускіх добраахвотнікаў, і міжнародны дабрачынны фонд "Валошка". Удзельнікі акцыі звярталі ўвагу на супольныя старонкі беларускай і ўкраінскай гісторыі, калі фактычна адначасова аб незалежнасці абвясцілі Беларуская і Украінская Народныя Рэспублікі... Прадстаўніца Фонду "Валошка" Анжэла Душаева падзякавала беларусам за дапамогу Украіне...

У акцыі ўзялі ўдзел ад 30 да 50 чалавек, яна была санкцыянавана кіеўскай гарадской уладай. Пасля невялікага мітынгу на Майдане Незалежнасці актывісты прайшлі па Хрышчаціку на вуліцу Грушэўскага, дзе ўшанавалі памяць Міхася Жызнеўскага (ён загінуў на пачатку 2014 года ў часе масавых акцыяў пратэсту), а таксама лідара Народнага Руху Украіны Вячаслава Чарнавола, які трагічна загінуў у 1999 годзе.

У часе шэсця ўдзельнікі акцыі скандавалі "Жыве Беларусь!", "Слава Украіне!", "За нашу і вашу свабоду!".

**Алена Літвінава, "Радыё Свабода"**

навіны

# "КРЫВІЧАМ" УРУЧЫЛІ ДЫПЛОМЫ

Іркуцкі Беларускі клуб "Крывічы" перамог у двух конкурсах грантаў, прадстаўленых Урадам Іркуцкай вобласці:

• "Губернскі сход грамадскасці" – праект "Спадчына беларусаў Іркуцкай вобласці"

• "Захаванне нацыянальнай самабытнасці" – праект "Пяты Міжнародны фестываль "Беларускі кірмаш".

Дыпломы Старшыні Беларускага клуба "Крывічы" Волі Галанавай падчас Урачыстага паседжання ўручыў намеснік губернатара Іркуцкай вобласці Дзмітрый Чарнышоў.

**Алег Рудакоў, Беларускі клуб "Крывічы"**



навіны

# Урад Літвы: НАДПІСЫ НА МАГІЛАХ ПАЎСТАНЦАЎ 1863 ГОДА БУДУЦЬ І ПА-БЕЛАРУСКУ

"Імёны кіраўнікоў і ўдзельнікаў паўстання (на іх магілах пасля перапахавання), як мяркуецца, будуць запісаны на літоўскай, польскай і беларускай мовах", – гаворыцца ў лісце першага намесніка канцлера ўрада Літвы Дэйвідаса Матулёніса.

Урад Літвы адказаў на зварот больш як 500 дзеячоў грамадства і культуры Беларусі, у тым ліку кіраўнікоў ЗБС "Бацькаўшчына" Алены Макоўскай і Ніны Шыдлоўскай. Адказ прыйшоў галоўнаму рэдактару часопіса "Наша гісторыя" Андрэю Дынько, каардынатару збору подпісаў пад зваротам беларускай грамадскасці.

"Дзякуем Вам за цікавасць і клопат пра лёс парэшткаў кіраўнікоў і ўдзельнікаў Паўстання 1863–1864 гадоў, знойдзеных у Віленскім замку на гары Гедыміна, – гаворыцца ў адказе намесніка канцлера. – Кіраўнікоў і ўдзельнікаў Паўстання сумленна і годна перапахаваюць у цэнтральнай капліцы могілак Росы ў Вільні. Урачыстую цырымонію плануецца арганізаваць у 2019 годзе", – паведамляецца ў лісце.

Цяпер віленскія архітэктары распрацоўваюць канцэпцыі дызайну капліцы. "Імёны кіраўнікоў і ўдзельнікаў паўстання, як мяркуецца, будуць запісаны на літоўскай, польскай і беларускай мовах", – гаворыцца ў лісце літоўскага чыноўніка.




На гары Гедыміна знайшлі парэшткі 20-ці з 21-го пакараных паўстанцаў. Парэшткі Кастуся Каліноўскага ідэнтыфікаваныя з пэўнасцю на 95%.

Паўстанне 1863–64 гадоў мела нацыянальна-вызвольны і сацыяльны характар. Кіраўнік паўстання ў Беларусі, харызматычны Канстанцін Каліноўскі ўпершыню ў найноўшай гісторыі стаў выкарыстоўваць беларускую мову ў сваёй рэвалюцыйнай агітацыі. Калі ўдзельнікі ранейшых паўстанняў змагаліся за аднаўленне Рэчы Паспалітай у старым яе разуменні, Каліноўскі падышоў да фармулявання беларускіх нацыянальных інтарэсаў і задач. Паролем паўстанцам былі словы: "Каго любіш?" – "Люблю Беларусь!" – "То ўзаемна!".

**Паводле Сяргея Гезгалы, "Наша Ніва"**

# НА БЕЛАРУСКАЕ ШЭСЦЕ Ў ГОНАР КАЛІНОЎСКАГА Ў ВІЛЬНІ ПРЫЙШЛІ ПРАПРАЎНУК МІЦКЕВІЧА І ПЕРШЫ ЛІДАР ВОЛЬНАЙ ЛІТВЫ

Цэнтрам Вільні прайшла калона з беларускімі, літоўскімі, польскімі і ўкраінскімі сцягамі. Акцыю зладзілі з ініцыятывы беларускіх арганізацыяў Літвы. Удзельнікі шэсця рушылі з вуліцы Святога Ігната на Лукішскі пляц – менавіта там 155 гадоў таму быў пакараны смерцю нацыянальны герой Беларусі.

Спачатку ў жалобны дзень планавалася перапахаваць парэшткі, якія выпадкова знайшлі пазалетась на гары Гедыміна. Аднак канчаткова апазнанне пакуль не завершанае, да таго ж узніклі моўныя спрэчкі вакол мемарыялізацыі – цырымонію адклалі на восень.

Напярэдадні на Лукішскім пляцы званы касцёла Святых апосталаў Піліпа і Якуба 155 разоў прабілі ў гонар Каліноўскага, былі зачытаныя імёны паўстанцаў і запаленыя 26 паходняў – па колькасці гадоў, пражытых Каліноўскім.

У суботу да ўшанавання далучыліся некалькі сотняў гасцей з Беларусі – палітыкі, грамадскія дзеячы, гісторыкі, літаратары, навучэнцы і выкладчыкі Беларускага гуманітарнага ліцэя. З сабой яны прывезлі бел-чырвона-белыя сцягі, а таксама жывапісны партрэт Кастуся Каліноўскага працы Алеся Пушкіна – на чале працэсіі яго пранёс сын мастака Мікола. Побач быў і найбольш вядомы прыжыццёвы здымак лідара паўстанцаў.

Агульны збор быў прызначаны на цяперашняй вуліцы Святога Ігната, 11 – менавіта тут лідар паўстання ўтрымліваўся ў вязніцы і адсюль пачаўся ягоны шлях на шыбеніцу. Удзельнікі паўтарылі гэты жалобны маршрут да Лукішскага пляцу, дзе расійская адміністрацыя прывяла смяротны прысуд у выкананне.

У галаве калоны – сцягі Літвы, Польшчы, Украіны і бел-чырвона-белы беларускі. Яны сімвалізуюць удзел у паўстанні прадстаўнікоў народаў, якія змагаліся супраць расійскай акупацыі.

Калону суправаджала паліцыя, па дарозе гісторык Язэп Янушкевіч называў герояў тагачасных падзеяў, бальшыню якіх напаткаў трагічны лёс, удзельнікі шэсця адказвалі на кожнае прозвішча воклічам "Вечная памяць!". Агулам у дзеі брала ўдзел блізу тысячы чалавек. Таксама з пераносных дынамікаў гучалі спевы з "паўстанцкага цыклу" Сяржука Сокалава-Воюша.



Ля крыжа на Лукішскай плошчы прайшоў імправізаваны мітынг. Слова ўзяў першы лідар Літвы Вітаўтас Ландсбергіс. Ён адзначыў, што па сутнасці Каліноўскі стаў правадыром касінераў – людзей, якія былі гатовы змагацца за сваю свабоду літаральна голымі рукамі: з "косамі" ды іншым гаспадарскім інструментам. І гэта стала выдатным прыкладам для тых іх паслядоўнікаў, якія здабывалі незалежнасць ад Расіі ўжо ў канцы XX стагоддзя.

Дэпутат літоўскага Сейма Эмануэліс Зінгерыс падтрымаў агульную танальнасць прамовы, прысвяціўшы яе Беларусі. Ён панаракаў, што, відавочна, не за такую Беларусь змагаўся Кастусь Каліноўскі больш чым 150 гадоў таму... Парламентар выказаў спадзяванне, што раней ці пазней суседняя краіна скажа "так" Еўропе, бо беларусы – еўрапейскі народ. Гэтаксама ён паведаміў, што Сейм Літвы рыхтуе адмысловы акт пра перазахаванне парэшткаў паўстанцаў, якое папярэдне прызначанае на сёлетнюю восень. Беларускія афіцыйныя асобы пакуль ня выявілі інтарэсу да падзеі, затое высокую актыўнасць дэманструе грамадзянская супольнасць.

Быў ля крыжа паўстанцам заўважаны і вядомы літоўскі паэт, публіцыст, дысідэнт і праваабаронца Томас Вянцлава. Сказаў, што не рыхтаваўся да выступу, але падкрэсліў, што постаць Каліноўскага лішніх словаў і не вымагае.

На Лукішскай плошчы прысутнічалі актывісты і неабыякавыя людзі з Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны. Сярод іх – арганізатары мемарыяльных імпрэз з беларускіх нацыянальных суполак Анатоль Міхнавец, Аляксандар Адамковіч, Валянціх Стэх, Людвіка Кардзіс; гісторыкі Алесь Смалянчук, Язэп Янушкевіч, Васіль Герасімчык; палітыкі Вячаслаў Сіўчык, Алена Талстая, Сяргей Высоцкі; заснавальнікі руху адраджэння "Саюдзіс", прадстаўнікі польскай і ўкраінскай грамады ў Літве.

Намеснік амбасадара Польшчы ў Літве Гжэгаж Пазнаньскі сказаў, у прыватнасці, што свабода і незалежнасць – галоўныя каштоўнасці, за якія паўстанцы былі гатовыя ахвяраваць сваім жыццём... А Раман Гарэцкі-Міцкевіч, праправнук "паэта трох народаў" Адама Міцкевіча, чарговым разам падкрэсліў, як праз лёс выбітных асобаў свайго часу шчыльна іназаўсёды пераплёўся лёс беларусаў, палякаў, літоўцаў.

На завяршэнне ля крыжа на Лукішскім пляцы прайшоў малебен па загінулых змагарах з царскім рэжымам.

**Паводле Ігара Карнея, "Радыё Свабода"**

гутарка

# ПРАВІЛЫ ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСКІ, ЯКАЯ 20 ГАДОЎ ПРАЦУЕ Ў КАНАДЗЕ Ў ІТ-СФЕРЫ

Як з'ехаць у Канаду, не ведаючы нават ангельскай мовы, а ў выніку зрабіць кар'еру ў сферы інфармацыі і бізнесу? Валянціна Шаўчэнка сведчыць, што галоўнае – умець вучыцца, працаваць ды мець "open mind".

Валянціна Шаўчэнка нарадзілася ў Мінску, скончыла факультэт прыкладной матэматыкі БДУ. У 1998 разам з мужам і дзецьмі з'ехала ў Канаду. З'язджаючы, яна амаль не ведала ангельскай мовы, і гэта былў ці не самы цяжкі момант. Агулам жа пераезд прайшоў лёгка: "Чаго сумаваць? Трэба жыць!" – прызнаецца наша гераіня.

Апошнія 20 гадоў спадарыня Валянціна з мужам і двума дзецьмі жыве ў Таронта. Там прайшла шлях ад прадавачкі ў краме да бізнес-аналітыка ў адным з найбуйнейшых канадскіх банкаў. У чым сакрэт поспеху і адрозненні канадскага ладу жыцця ад беларускага? Дамо слова нашай гераіні.

### Як мяне ўзялі без мовы? Не ведаю...

У Таронта пачала з працы ў краме. Патрэбная была найперш мова. Я вывучала ангельскую ва ўніверсітэце, але потым у ёй не было патрэбы, а хто вывучыць тое, ад чаго няма карысці? Думак жа з'язджаць не было. Перад самым ад'ездам троху павучылa: як завуць, адкуль я – і ўсё! Праца ў краме была для мяне ў тым ліку моўнай стажыроўкай.

Праз пару месяцаў сустрэла жанчыну, якая парэкамендавала мяне на фабрыку, што рабіла камп'ютарныя платы. Акурат там за паўгода інтэнсіўных кантактаў з канадцамі я і вывучыла ангельскую. А пасля сказала менеджару, што я не на сваім месцы, хачу сысці. Той паставіўся з разуменнем. Звольніў з фармулёўкай "працуе добра, але працы няма" – такім чынам я яшчэ грошы па беспрацоўі атрымала!

### Мазгі мне там "паставілі"!

Я пайшла вучыцца, атрымала oracle-сертыфікат. Праз некалькі месяцаў знайшла працу прагамістам, з Oracle вывучыла мову Visual Basic. Зноў жа, не ведаю, як у мяне атрымалася, але менеджар сказаў: "У цябе было столькі энтузіязму, што я не змог адмовіць". Кампанія рабіла software для амерыканскіх і канадскіх біржаў. Я захаплялася гэтай працай. Грошы былі невялікія, але таго, што я вывучыла за два гады, мне хапіла на наступныя дзесяцігоддзі працы і жыцця ў Канадзе ў розных галінах IT. Нават з пункту гледжання не столькі ведаў, колькі здольнасці працаваць ва ўмовах стрэсу, шукаць інфармацыю і яе выкарыстоўваць. Карацей, мазгі мне там "паставілі"!

### Я ведала, дзе праграмісты могуць памыліцца

Там я працавала два гады, але адчула, што цяжка. У мяне былі дзеці, а я думала ўвесь час адно пра працу. Нават калі ўвечары дадому прыходзіла: праца-праца-праца... Я сказала шэфу, што хачу пайсці на "тэстынг". Такі варыянт працы не настолькі займае галаву. Працу знайшла ў адным з пяці найбуйнейшых банкаў краіны, дайшла да пазіцыі "тэст-ліда". Мне было лёгка, я ведала, як праграмісты пішуць праграмы, ведала, дзе яны могуць памыліцца.

### Веды. Энтузіязм. Здольнасць працаваць у камандзе

Скончыўся кантракт там – пайшла ў іншы банк. Кожны раз мне было няцяжка шукаць працу, маючы добрае рэзюмэ ды ўмеючы праходзіць сумоўе. Апошняе вельмі важна. Ты павінен паказаць, што не толькі маеш веды, але яшчэ энтузіязм, што ўмееш працаваць у камандзе. Часам не разумееш, навошта задаюць тое ці іншае пытанне. Пасля, калі ўжо сама пачала рабіць інтэрв'ю, усё стала ясна. Заходзіць чалавек у пакой, і ты ўжо разумееш, зможаш з ім працаваць ці не. Гэта энергетыка нейкая, гэта не значыць, што чалавек дрэнны. Проста адчуваеш, што табе і тваёй камандзе ён не падыходзіць.

### Сціпласць і комплекс "непрызнанага генія"

Шэсць гадоў я працавала тэст-менеджарам і бізнес-аналітыкам у Bank of Montreal. Трэба было аналізаваць патрабаванні, якія выстаўляў бізнес, і даносіць іх праграмістам зразумелай ім мовай. Тое, што я цяпер распавядаю, падаецца лёгкім, але бывае і так, што наш чалавек у Канадзе не можа знайсці працу, нават маючы веды і навыкі. Нашым людзям часцяком бракуе здольнасці "прадаць" сябе. Нас вучылі: не выстаўляй сябе, будзь сціплым. Калі нешта не так – шукай праблему ў сабе... Атрымліваецца сумесь: сціпласць з аднаго боку і комплекс "непрызнанага генія" з іншага. Гэты ўнутраны канфлікт "выпальвае" чалавека. Ад гэтага варта пазбаўляцца, безумоўна.

### Снег, "гіфт-картка" ад калегаў і цынізм

Ёсць стэрэатып, што заходняе грамадства пабудаванае на цынізме. Гэта лухта! Клопат пра чалавека тут на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі. Самі ж канадцы як дзеці малыя – добрыя, шчырыя на побытавым узроўні. Наша суседка ўзімку прыбірае снег са свайго боку вуліцы, але можа прыбраць і на нашым. Іду дадому, бачу, пытаюся: "Навошта?" Яна тлумачыць, што падумала, маўляў, мы з нейкай прычыны цяпер гэта не можам зрабіць, а ёй няцяжка!

У банку, дзе я працавала шэсць гадоў, працаваў мой сябра Фрэнк, з сям'і эмігрантаў-італьянцаў. За ўвесь час у нас не было ніводнага канфлікту. Размаўлялі з ім пра рускую літаратуру, Дастаеўскага – ён усё гэта чытаў па-ангельску. Калі я сыходзіла з той працы, мне падарылі "гіфт-картку" – грошы, якімі скінуліся супрацоўнікі і проста далі на добрую памяць. Не па ўказцы начальства, а самі. Гэта звычайная практыка. Які цынізм? Я таксама рэгулярна на нешта ахвярую – хай па 100-150$ на год. Так прынята.

### Не могуць звольніць, калі ты проста не падабаешся

За 20 гадоў у мяне цалкам змянілася псіхалогія дачыненняў з людзьмі, у тым ліку ў плане канфліктаў. На працы ты не маеш права ні з кім сварыцца. Ты можаш звярнуцца да менеджара ў канфліктнай сітуацыі, да HR. Той гатовы быць медыятарам, паразмаўляць з супрацоўнікам, з якім у цябе не склалася, гатовы пайсці з гэтай тэмай вышэй – як вы разам вырашыце.

Канечне, у Канадзе ты можаш прыйсці на працу, і табе скажуць: ты звольнены. Але каб так атрымалася, ты маеш нарабіць такога... Я неяк звольніла чалавека. Ён тры месяцы не выконваў патрабаванняў, не камунікаваў ні з кім. Менеджар у мяне спытаў меркаванне, я шчыра адказала: трэба звальняць, каманда буксуе. Але гэта крайні выпадак. Цябе не могуць звольніць, бо ты проста некаму не падабаешся.

### Пяць гадоў не чытала па-беларуску і па-руску

Адным з найбольшых стрэсаў для мяне было пытанне мовы. На першай працы ўласнік кампаніі паслаў мяне на курсы ў каледж, гэта дало плён. А яшчэ я пяць гадоў спецыяльна не чытала па-беларуску і па-руску: кнігі, газеты, сайты, не глядзела фільмы. Усё па-ангельску. Таму магу



даць параду: вучыце мову і прынамсі на нейкі час адмаўляйцеся ад сваёй, каб цалкам трапіць у англамоўнае асяроддзе.

### Не "канадоны", а канадцы

Калі прыязджаеш сюды, канечне, патрэбная адукацыя. Інакш будзеш мыць посуд ці вадзіць грузавік. Але і адукацыя не галоўнае: ёсць і адукаваныя, што посуд мыюць... Трэба ведаць, як размаўляць з людзьмі, як "прадаць сябе". Для мяне кожнае сумоўе – як выхад на сцэну. Нельга ленавацца. Трэба назаўжды развітацца з думкай, маўляў, "я лепшы і разумнейшы за іншых". Шмат хто прыязджае з СНД і жыве такімі штампамі: "Мы найлепшыя, а яны "канадоны". Носяць георгіеўскія стужкі, глядзяць расійскі "Першы канал"... А сярод нас ёсць і лепшыя, і горшыя. І яны не "канадоны", а канадцы. Трэба працаваць і мець адкрыты розум – open mind!

### Не адчуваю сябе эмігранткай

Цяпер едуць больш адукаваныя людзі, з веданнем мовы. Больш хваткія, цынічныя... Гэта ня дрэнна, бо дае магчымасць добра тут уладкавацца. А яшчэ яны кажуць "сваю" праўду ў вочы. У маім пакаленні, відаць, было больш замкнёнасці і тактоўнасці. Як на мяне, ім трохі не хапае эмацыйнага інтэлекту.

Наогул жа тыя, хто эмігруе, – незвычайныя людзі. Трэба мець здольнасці, авантурызм, смеласць, нават адчай – у 1990-я асабліва так было. Але цяпер, думаю, эміграцыі як такой, калі абсякаеш кантакты з Радзімай, няма. Свет адкрыты. У скайпе гутары з блізкімі хоць штодня, захацеў – сеў на самалёт і паляцеў. Я сябе эмігранткай не адчуваю. Адчуваю чалавекам, які проста пераехаў у іншую краіну.

### Беларусь – IT-краіна, гэта яе будучыня

Згодная, што Беларусь – IT-краіна. Мне здаецца, гэта будучыня Беларусі. Ёсць добрая школа, добрыя спецы, адказнае стаўленне: калі беларус узяўся, то зробіць. Мне неяк нават прыйшло запрашэнне на працу з беларускай аўтсорсінгавай кампаніі працаваць для іх бізнес-аналітыкам, уяўляеце?

### Гляджу ў будучыню, і мне страшна...

Цяпер для мяне надзвычай цікавая тэма штучнага інтэлекту. Планую ўзяць вольны тыдзень на працы, каб прысвяціць сябе курсам па гэтай тэме. Гляджу ў будучыню, і мне неяк і цікава, і страшна, яна мяне пужае. Добра разумею, што ў хуткім часе не будзе сярэдняга класу: застануцца багатыя і бедныя. Ідзе чацвёртая тэхнічная рэвалюцыя... Але каб разабрацца – "страшна, не страшна", – трэба ведаць. І заўжды вучыцца. Гэта мая "фішка"!

Алесь Кіркевіч,
"Будзьма беларусамі!"

кніга

# Зміцер Саўка: "Беларуская цывілізацыя ў Амерыцы"

Новае выданне ў "Бібліятэцы Бацькаўшчыны" – не проста выкшталцоны летапіс паўстагадовай (на час напісання кнігі) гісторыі "Беларуска-Амерыканскага Задзіночання" – найбуйнейшай і найстарэйшай арганізацыі беларусаў у ЗША. Кніга мае ўсе шанцы зрабіцца бестсэлерам яшчэ і дзякуючы асобе летапісца, вядомага беларускага мовазнаўцы Змітра Саўкі, які пайшоў у лепшы свет у 2016 годзе.




Дзякуючы "Беларускай цывілізацыі ў Амерыцы" многія чытачы адкрыюць для сябе яшчэ адзін са шматлікіх талентаў знакамітага рэдактара, перакладчыка, лексікографа і актыўнага суаўтара праекта нармалізацыі сучаснага беларускага правапісу – талент даследчыка-эміграцыязнаўцы.

Зміцер Саўка прыязджаў у Злучаныя Штаты пры канцы 1990-х на запрашэнне Вітаўта Кіпеля, кіраўніка Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, і прабыў там агулам паўтара года. З першых дзён працы над складаннем "Бібліяграфіі беларускіх слоўнікаў і энцыклапедый" ён моцна ўразіў беларускую грамаду Нью-Ёрка сваёй актыўнасцю і нястомнасцю. У выніку тая "Бібліяграфія..." сталася адно часткай усяго зробленага ім за той адносна нядоўгі перыяд. Паміж падрыхтоўкай успамінаў Яўхіма Кіпеля, працай у газеце "Беларус" і альманаху "Запісы БІНіМ" ён знаходзіў час для таго, каб рыхтаваць матэрыял яшчэ і для гэтай кнігі, куды апрача гісторыі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ўвайшлі сабраныя і падрыхтаваныя Змітром Саўкам захапляльныя ўспаміны дзеячаў эміграцыі, сябраў БАЗА (Янкі Азаркі,



Васіля Русака, Антона Шукелойця, Васіля Шчэцькі ды іншых). Успаміны не толькі пра побыт і дзейнасць на чужыне, але і пра даваеннае жыццё, ваенныя падзеі.

Кніга падрыхтаваная да друку вядомай даследчыцай эміграцыі Наталляй Гардзіенка, адкрываецца прадмовай слыннага архівіста Лявона Юрэвіча і традыцыйна ўзбагачаная грунтоўнымі каментарамі. Гэтае выданне ўпрыгожыць любы збор і ўзбагаціць кожную беларускую душу, з'явіцца ў крамах да трэцяй гадавіны смерці Змітра Саўкі – 9 красавіка.

Замаўляйце праз інтэрнэт: knihi.by

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## Беларускі каляндар памятных дат на красавік 2019 года

1 красавіка – 30 гадоў таму, у 1989-м, у Гданьску (Польшча) заснаваны гурток Беларускага Аб'яднання Студэнтаў.

4 красавіка – 120 гадоў таму, у 1899-м, нарадзіўся Віталь Хамёнак, дзеяч хрысціянскага руху.

6 красавіка – 115 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Мікола Хведаровіч, паэт, празаік, перакладчык.

6 красавіка – 20 гадоў таму, у 1999-м, памёр Генадзь Карпенка, грамадска-палітычны дзеяч, вучоны.

8 красавіка – 115 гадоў таму, у 1904-м, памёр Вацлаў Валодзька, грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

11 красавіка – 155 гадоў таму, у 1864-м, расстраляны Антон Алендскі, камандзір паўстання 1863–1864 гг.

12 красавіка – 50 гадоў таму, у 1969-м, памёр Сяргей Малафееў, медык, адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні.

16 красавіка – 60 гадоў таму, у 1959-м, памерла Зінаіда Бандарына, пісьменніца, паэтэса.

18 красавіка – 205 гадоў таму, у 1814-м, нарадзіўся Яўстах Тышкевіч, гісторык, краязнавец, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

18 красавіка – 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Лазар Ран, мастак.

20 красавіка – 185 гадоў таму, у 1834-м, нарадзіўся Іосіф Жылінскі, даследчык Палесся, геадэзіст.

22 красавіка – 65 гадоў таму, у 1954-м, памёр Сяргей Сахараў, культурны дзеяч, фальклярыст, этнограф.

22 красавіка – 25 гадоў таму, у 1994-м, у Мінску пачалася першая сустрэча беларускай моладзі свету.

24 красавіка – 130 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Юры Сабалеўскі, палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

24 красавіка – 95 гадоў таму, у 1924-м, памёр Міхаіл Пліс, грамадскі дзеяч, праваслаўны святар.

25 красавіка – 115 гадоў таму, у 1904-м, памёр Францішак Далеўскі, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

26 красавіка – Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

28 красавіка – 75 гадоў таму, у 1944-м, памёр Ільдэфонс Бобіч, рымска-каталіцкі святар, выдавец.

in memoriam

## Памёр святар Андрэй Парфенчык

Ад невылечнай хваробы памёр праваслаўны святар Андрэй Парфенчык. Яму не было яшчэ і сарака. Ён служыў настаяцелем прыхода св. Аляксандра Каманскага ў Палерма (Італія), а перад тым – 9 гадоў быў настаяцелем у Клецку. Ён быў родам з Мінска і належаў да плеяды маладых праваслаўных святароў, якая вырасла ўжо ў незалежнай Беларусі і дарыла сваёй беларускасцю. У 2018 годзе італьянскія дактары паставілі айцу Андрэю анкалагічны дыягназ і рабілі ўсё магчымае, каб захаваць святару жыццё, але апошнім часам маглі толькі палягчаць пакуты хворага.

**Паводле "Нашай Нівы"**



абвестка

# Адкрыты збор сродкаў на помнік Хведару Нюньку

Сваякі і паплечнікі Хведара Нюнькі (06.04.1928–15.08.2018), слыннага дзеяча беларускага замежжа, шматгадовага кіраўніка Таварыства беларускай культуры ў Літве, ініцыятара стварэння беларускай школы ў Вільні, звяртаюцца да сусветнай беларускай супольнасці з просьбай дапамагчы ў зборы сродкаў, неабходных для ўсталявання помніка на яго магіле.

Папярэдні макет помніка ўжо ёсць. Паколькі Хведар Нюнька пахаваны побач з сваёй жонкай Нінай, то ўсё месца пахавання трэба будзе рэканструяваць, каб аб'яднаць у агульную кампазіцыю. Сваякі адкрытыя да прапаноў беларускіх скульптараў і творцаў па тым, як можа выглядаць помнік, а таксама да любой іншай дапамогі.

Непасрэдна зборам сродкаў на ўшанаванне памяці свайго бацькі займаецца дачка Хведара Нюнькі Ніна Барбора. Да яе можна звяртацца па ўсіх пытаннях, звязаных з ушанаваннем памяці спадара Хведара (ninabarbora@gmail.com). Грошы можна пералічыць на наступны рахунак у любой валюце.

**Банкаўскі рахунак:**

Account holder's name: Nina Barbora Evans
AB Swedbank, Konstitucijos Ave. 20A, LT-03502 Vilnius, Lithuania
SWIFT: HABALT22
IBAN: LT067300010017720684
Reference: POMNIK

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



**Беларусы ў свеце**
№ 3 (202), сакавік 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27